*Новы прэзідэнт Латвіі чакае Аляксандра Лукашэнку з візітам, сказаў міністр замежных спраў Латвіі Эдгарс Рынкевічс.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**


# Народная Воля

**№ 58 (4413)**

26 ліпеня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



СКАНДАЛ

# Россия заливает Беларусь фальсифицированной питьевой водой?

ИХ ПРИЗНАНИЕ

## Сергей ЧЕМЕЗОВ, глава госкорпорации «Ростех»:

**В некоторых регионах мошенники так обнаглели, что выставляют на продажу до 80 процентов подделок**

Качество питьевой воды, которую можно сегодня найти на прилавках российских магазинов, оставляет желать лучшего. И об этом уже давно говорят эксперты и чиновники. Однако, как стало известно, ситуация становится все хуже и хуже и требует немедленного вмешательства властей.

Шокирующие данные озвучил на встрече с президентом страны Владимиром Путиным глава «Ростех» Сергей Чемезов. Отчитываясь перед главой государства, он рассказал о том, что «процент фальсификата» питьевой воды «составляет от 25 до 30% в среднем по России». В некоторых регионах мошенники так обнаглели, что выставляют на продажу до 80 процентов подделок.

Чемезов подчеркнул, что для борьбы с некачественной продукцией нужно как можно скорее ввести маркировку воды. С таким же предложением, напомним, выступал недавно и Роспотребнадзор. По словам же спикера Совфеда Валентины Матвиенко, правительство уже занимается подготовкой решения по обязательной маркировке воды. Чиновница отметила, что очень много фальсификата выдают за воды из Кавминвод, а на деле она оказывается разлитой «из ближайшего водопровода».

*(РИА «Новости»)*



БЛИЦ-КОММЕНТАРИЙ

## У нас что, пересохли свои скважины?

Может, наконец-то мы, белорусы, задумаемся: зачем нам отдавать деньги на воду, привезенную из России и неизвестно какого качества, если у нас достаточно своей, при этом проверенной и не вызывающей никаких сомнений в полезности. А то зайдешь в иной супермаркет, глянешь на полки – сплошь бутылки с российскими наклейками. И какие вызывающие названия! Скажем – «Святой источник». А что эта вода, не исключено, и близко не находилась возле «святого источника» – на такой нюанс не каждый покупатель обращает внимание. А стоило бы!

Информация, которую поведал Владимиру Путину глава госкорпорации «Ростех» Сергей Чемезов, не просто настораживающая, а, можно сказать, сенсационно-скандальная. И белорусским властям следует сделать решительные выводы. Прежде всего нужно поставить под контроль все поставки российской питьевой воды в нашу страну, наложить полный запрет на ввоз фальсификата. Нечего подрывать здоровье своих людей разного рода подделками, выкачивая при этом из наших карманов большие деньги и обогащая российских мошенников.

У нас что, пересохли свои природные скважины?

**Константин РЫБЧЕНКО.**

НАДЗВЫЧАЙНАЕ ЗДАРЭННЕ

# У Анкары цяжка паранены дарадца пасольства Беларусі Аляксандр Паганшаў

*У яго некалькі разоў выстраліў турэцкі палкоўнік у адстаўцы, які потым сам пусціў у сябе кулю.*

Сведкай здарэння стала суседка дыпламата. Вось яе словы:

*«Я пражываю ў доме каля парка Дзікмен, дзе ўсё і адбылося. Пачула стрэл, выйшла на балкон і ўбачыла, як у бок будкі аховы бяжыць мой сусед, беларускі дыпламат, сцякаючы крывёй і трымаючы двух дзяцей за рукі. Раздаліся яшчэ два стрэлы, пасля чаго ён паваліўся на калені і ўжо не падымаўся. Ахова схапіла дзяцей і запхнула іх у будку»,* – распавяла суразмоўца.

Паводле сведчанняў суседкі Аляксандра Паганшава, стралок адразу ж знік, хутка прыехала паліцыя, людзі паспрабавалі выйсці на балкон, але паліцыянты ім паказалі знакамі, каб яны сышлі. Калі пад'ехала "хуткая", дыпламат яшчэ быў у прытомнасці, адзначыла яна.

*«Стралком аказаўся адстаўны вайсковец, сусед дыпламата, пазней ён застрэліўся ў сябе дома. Дыпламат, мабыць, проста выпадкова трапіўся гэтаму неадэкватнаму чалавеку. Як кажуць суседзі, яны разам ехалі ў ліфце і, мабыць, нешта там паміж імі адбылося. Выходзячы з ліфта, гэты чалавек стаў страляць»,* – дадала суразмоўца турэцкага агенцтва.

Яна дадала, што да гэтага ўжо быў інцыдэнт, звязаны з псіхічным адхіленнем у былога вайскоўца, які не надалі агалосцы. «Ён расстраляў шкляныя дзверы ў сваім блоку з баявой зброі. Але ахова тады паліцыю не выклікала».

## Уладзімір МАКЕЙ, міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь:

## «Няма ніякай палітычнай падаплёкі»

Жудасны інцыдэнт учора пракаментаваў міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей.

Ён сказаў, што сварку, якая прывяла да нападу на беларускага дыпламата ў Турцыі, магла выклікаць незадаволенасць паводзінамі дзяцей у двары з боку эмацыянальна неўраўнаважанага стралка. *«Праводзіцца расследаванне, якое дасць поўную карціну. На наш погляд, няма ніякай палітычнай падаплёкі. Відавочна, была незадаволенасць паводзінамі дзяцей, якія гулялі ў двары. Магчыма, на гэтай глебе адбыўся ўсплёск эмоцый».*

У.Макей падкрэсліў, што рана рабіць нейкія высновы да завяршэння расследавання. А таксама падзякаваў турэцкаму боку за аператыўную дапамогу. Дыпламат быў неадкладна дастаўлены ў бальніцу і паспяхова прааперыраваны. Яго стан нармалізуецца. Уладзімір Макей выказаў надзею на спрыяльны вынік.

З НАГОДЫ

Аляксандр ЯРАШУК, старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў:

## «Сёння немагчыма разлічваць на нейкія масавыя акцыі пратэсту»

На гэтым тыдні А.Лукашэнка падпісаў закон, які ўносіць змяненні ў Працоўны кодэкс. Новы дакумент востра крытыкуюць кіраўнікі незалежных прафсаюзаў. Але дзіўна, што пры гэтым маўчаць працоўныя на прадпрыемствах, дзе ёсць сябры незалежных прафсаюзных арганізацый. Чаму?

– Калі мы кажам, што Працоўны кодэкс крытыкуюць кіраўнікі незалежных прафсаюзаў, то гэта не азначае, што толькі я, старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў, выказваю сваё асабістае меркаванне, – у размове па тэлефоне заўважае **Аляксандр Ярашук**. – Гэта наша кансалідаваная пазіцыя, і няправільна падзяляць прафсаюзы і шараговых сябраў арганізацыі, якія працуюць на прадпрыемствах. Напрыклад, 18 ліпеня мы прынялі адмысловую заяву, дзе заклікалі прэзідэнта не падпісваць гэты закон. Усе выказаліся аднагалосна – і кіраўнікі галіновых прафсаюзаў, і шараговыя сябры, якія працуюць на заводах.

Таму ў нас, думаю, функцыянуе тая сістэма, якая працуе ў нармальных дэмакратычных грамадствах. Нам, як кіраўнікам, людзі даверылі, і мы выказваем іх меркаванне.

**– Але не чуваць, каб працоўныя публічна выступалі з крытыкай таго ж Працоўнага кодэкса…**

– Калі вы маеце на ўвазе нейкія пікеты ці вулічныя акцыі, то гэтыя пытанні мы нават і не разглядалі. Мы зыходзім з таго, што ў сённяшняй сітуацыі, калі многія працуюць на кароткатэрміновых кантрактах, не варта падстаўляць сябраў незалежнага прафсаюза і заклікаць кагосьці да публічных акцый. Мы цудоўна ведаем, што з нашага боку гэта была б правакацыя. Тым больш сёння немагчыма разлічваць на нейкія масавыя акцыі пратэсту.

**– А можа, маўчанне працоўных калектываў азначае недавер да незалежных прафсаюзаў?**

– Незалежныя прафсаюзы нікому нічога не абавязаны, я адказваю толькі перад сябрамі нашай арганізацыі. Іншая справа, што часам мы добраахвотна бяром на сябе місію выказвацца ад усіх працоўных, але гэта толькі наша добрая воля. Гэта наш доўг, але ніяк не абавязак.

Да таго ж трэба прымаць да ўвагі магчымасці ўплыву незалежных прафсаюзаў, бо мы існуем больш як выключэнне, а не як правіла. І тое, што мы захавалі арганізацыю да гэтага часу, насамрэч вялікае дасягненне. Трэба ж разумець, у якой краіне мы жывём.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СТИХИЯ

# На Мядельщину пришла зима: сильный град уничтожил огороды, разбил окна и теплицы

Град начался вчера в Будславе в районе 13 часов.

Местный житель Петр рассказал «Региональной газете»:

– Зима пришла в Будслав посреди лета. Град размером с яйцо! Так намело, что едва дом открыли. В огороде все побило, одни дудки остались, листья с деревьев посрывало. Теплицы вон как побило, окна у людей разбиты. Ничего в огороде не осталось, вот какая беда!

Пострадали и деревни в Мядельском районе.

Напомним, вчера синоптики в связи с грозами объявили на вторую половину дня оранжевый уровень опасности.



КАЛІ ВЯРСТАЎСЯ НУМАР...

## Прэзідэнт Турцыі Рэджэп Эрдаган сочыць за развіццём сітуацыі

Калі вёрстка нумара падыходзіла да завяршэння, "Народнай Волі" стала вядома пра тое, што ў бальніцы, дзе знаходзіцца беларускі дыпламат, пабываў міністр замежных спраў Турцыі Меўлют Чавушаглу.

Пасля гэтага ён патэлефанаваў Уладзіміру Макею і "перадаў яму ўсю наяўную інфармацыю". Кіраўнік МЗС Турцыі таксама сказаў, што ў той час, калі паступіла паведамленне аб нападзе на беларускага дыпламата, ён знаходзіўся з прэзідэнтам Турцыі Рэджэпам Таіпам Эрдаганам. Паводле яго слоў, прэзідэнт іх краіны сочыць за развіццём сітуацыі.

СУД ДЫ СПРАВА

## Апетыты растуць

*Мінская міліцыя выставіла новыя іскавыя патрабаванні да арганізатараў Дня Волі-2019.*

Учора ў судзе Маскоўскага раёна Мінска павінны былі адбыцца судовыя слуханні па іску ГУУС сталіцы да арганізатараў святкавання Дня Волі, які прайшоў 24 сакавіка ў сталічным Кіеўскім скверы. Як вядома, да нядаўняга часу міліцыя патрабавала з актывістаў 7259 рублёў з улікам пені.

Аднак суддзя Вольга Гусакова перанесла пасяджэнне на 1 жніўня, паколькі ГУУС выставіў новыя іскавыя патрабаванні. Свае паслугі сталічная міліцыя ўжо ацэньвае ў 8013 рублёў. Але з гэтымі патрабаваннямі не былі азнаёмлены ні суд, ні адказчыкі, таму пасяджэнне і перанеслі.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА



## Дзмітрый СЕРАДА:
# «За тры гады ў мяне ніхто не папрасіў прабачэння!»

*У жніўні 2016 года ў Мінску здарыўся скандал, пра які напісалі літаральна ўсе СМІ.*

Раніцай 4 жніўня ў кватэру ўрача-педыятра Дзмітрыя Серады ўварваліся невядомыя ў масках. У дзверы ніхто не званіў, яе проста 15 хвілін выламвалі. Яшчэ некалькі чалавек, як пазней іх назаве Дзмітрый – «альпіністаў», спусціліся з даху на балкон і разбілі шкло балконных дзвярэй у кухні. Нападнікі са зброяй у руках беглі з кухні ў пакой з крыкам: «На пол!». На вачах у спалоханых і перапужаных жонкі і трохгадовай дачкі ляжачаму Дзмітрыю заламалі рукі і скавалі кайданкамі. Пазней высвятліцца, што гэта былі супрацоўнікі АМАПу.

Аказалася, што Дзмітрыя падазраюць у хуліганстве. За 4 дні да гэтага жыхаркі Заводскога раёна паведамілі ў міліцыю, што сустрэлі ў парку эксгібіцыяніста. Пазней адна з пацярпелых па фота ў вайберы, якое ёй перашле оперупаўнаважаны Заводскога РАУС Аляксандр Нушчык (так, аказваецца, у нас раскрываюцца злачынствы. – **Рэд.**), апазнае ў ім Дзмітрыя Сераду. Гэтага аказалася дастаткова, каб прыняць доктара за эксгібіцыяніста і раніцай са зброяй і ў масках уварвацца ў яго кватэру.

Аднак ў дзень затрымання стала відавочным, што падстаў затрымліваць не было – у той дзень, калі па парку Заводскога раёна бегаў эксгібіцыяніст, Серада з сябрамі быў на рыбалцы за 80 кіламетраў ад Мінска – гэта маглі пацвердзіць і сведкі, і дадзеныя мабільнага тэлефона. І самае галоўнае – пацярпелыя і сведка пры вочнай стаўцы не апазналі ў Дзмітрыі злачынца. Але перш чым мужчыну адпусцілі, яго два дні трымалі без ежы. Спачатку дзень у Следчым камітэце, потым на ноч пераявялі ў СІЗА на Акрэсціна і яшчэ адзін дзень Дзмітрыю давялося правесці ў РАУС Заводскага раёна. Важны момант: перад ні ў чым невінаватым грамадзянінам ніхто з міліцыянераў не выбачыўся, хаця ў афіцыйнай паперцы было пазначана, што «прычын для затрымання не было».

З таго часу Дзмітрый Серада спрабуе прыцягнуць да крымінальнай адказнасці выканаўцаў брутальнага захопу і дамагчыся матэрыяльнай і маральнай кампенсацыі. На працягу трох гадоў ён атрымаў сем (!) адмоў ва ўзбуджэнні крымінальнай справы да супрацоўнікаў органаў унутраных спраў, апошняя была вынесена летась 20 ліпеня.

У маі 2019-га – калі нарэшце ў Серады з'явілася магчымасць азнаёміцца з матэрыяламі справы, якая разраслася да трох тамоў і ў кожным па 300–400 старонак (прычым следчы дазваляў знаёміцца з дакументамі на працягу ад адной да чатырох гадзін у дзень без фотафіксацыі ці капіравання), ён падаў чарговую скаргу на пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы. На гэтым тыдні, 22–23 ліпеня, скарга разглядалася ў судзе Партызанскага раёна Мінска. І – амаль сенсацыя – суд пастанавіў іск Дзмітрыя Серады задаволіць, пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ў дачыненні да супрацоўнікаў аддзела унутраных спраў адмяніць, а матэрыялы адправіць на дадатковую праверку.

**– Ці не стаміліся змагацца?** – запыталася я ў Дзмітрыя адразу пасля судовага пасяджэння.

– Стаміўся. Але калі перад вачыма паўстае карцінка, як па кватэры ў спальню бягуць людзі са зброяй, а жонка і маленькая дачка з жахам у вачах сядзяць на ложку, я гатовы шукаць вінаватых у нападзе на маю сям'ю столькі, колькі патрабуецца! У рэшце рэшт павінен хтосьці адказаць і за гэты напад, і за тое, што мяне беспадстаўна збілі, а потым яшчэ збівалі і зневажалі ў машыне, калі везлі ў РАУС. Два дні мяне пратрымалі пад вартай. Мы з жонкай і дачкой хадзілі да псіхолага, я на бальнічным быў 16 дзён!

Чаму гэта ўсё застаецца беспакараным?

У мяне ёсць факты, што следчыя абсалютна ігнаравалі шэраг пытанняў, пастаўленых мною і пракуратурай, не хацелі праводзіць належнае расследаванне. Мяне і жонку дапытвалі і правяралі больш, чым тых міліцыянераў і амапаўцаў, якія напалі на мяне! Следчы запампоўваў мае артыкулы з «Фэйсбуку», незразумела чаму, вывучаў іх – яны прыкладзены ў матэрыялы справы, якая вялася па маёй (!)скарзе. Як гэта звязана з тым, што злачынцы, якія на мяне напалі, – міліцыянеры?! Атрымліваецца, што адсочваюць мяне, а не нападнікаў. Выглядае так, што следчыя проста «закопваюць» справу.

Адчуванне такое, што ўся сістэма стала на іх абарону, Міністэрства ўнутраных спраў не жадае выносіць смецце з хаты. Калі праваахоўнікі накасячылі, перавысілі свае службовыя паўнамоцтвы – дайце гэтаму прававую ацэнку. У нас што, людзі ў пагонах недатыкальныя, ім усё можна?! Я доктар і ведаю, як караюць маіх калег за памылкі ў рабоце, за халатнасць – і тэрміны турэмныя даюць, і ад працы адхіляюць. Чаму беспакаранымі застаюцца парушальнікі ў пагонах?! Больш за тое, оперупаўнаважаны Аляксандр Нушчык, які арганізаваў маё затрыманне, у 2017 годзе быў прызнаны лепшым аператыўным супрацоўнікам у Мінску. Як так? Мне здаецца, у МУС вырашылі такім чынам падстрахавацца, падрыхтавацца да судоў, каб потым даваць Нушчыку добрыя характарыстыкі. Хаця да інцыдэнту са мной у яго былі і вымовы, і строгія папярэджанні...

**– Дзмітрый, дарэчы, а як на вашай працы адрэагавалі на гэты інцыдэнт?**

– Усе былі здзіўлены і ўзрушаны адначасова, у прамым сэнсе хапаліся за галаву са словамі, як такое магчыма?! Усе мяне падтрымлівалі. Але я ўжо не працую доктарам, звольніўся, заняўся сваёй справай, прасоўваю ўласнае вынаходніцтва.

**– З медыцыны пайшлі не з-за гэтай сітуацыі?**

– Канешне не. Сышоў па той жа прычыне, па якой сыходзяць многія ўрачы –- маленькая зарплата, на якую сям'ю не пракорміш.

**– Як думаеце, новае разбіральніцтва па вашай справе дасць нейкі вынік?**

– Хацелася б. Бо за гэтыя тры гады ў мяне нават ніхто не папрасіў прабачэння! Я да гэтага часу не ведаю свой юрыдычны статус. Кім я з'яўляюся, можа, да гэтага часу падазраюць па гэтай справе? Ніхто з органаў ні ліста, ні паперкі мне не даслаў. Ніхто не патэлефанаваў!

Я ж лічу, што мне павінны пакрыць матэрыяльную і маральную шкоду і публічна папрасіць прабачэння хаця б на сайце Міністэрства ўнутраных спраў. Але для давядзення справы да канца неабходны велізарныя сродкі: і на адваката, і на судовыя выдаткі. Магчыма, каля трох тысяч рублёў, таму, напэўна, буду звяртацца да грамадскасці для збору сродкаў.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

СЛЫШАЛИ?

# Завод «Белджи» остановил производство автомобилей Geely

*Рабочих отправили в оплачиваемые отпуска*

*«Да, действительно, с 22 июля по 4 августа у нас отпуск. Это не вынужденный простой, это требования технологических процессов. Данное явление широко распространено в автомобильной отрасли, в частности, в Китае»*, – рассказал *Naviny.by* главный инженер СЗАО «Белджи» **Николай Лисовский**.

Дело в том, пояснил он, что в первую очередь оборудование цеха окраски требует регулярного (раз в полгода) обслуживания. В частности, ванны катофарезного покрытия, фосфатирования и ультрафильтрата надо сначала сливать, затем очищать и снова наполнять, подбирая правильные концентрации химических элементов. Из-за этих работ и производится остановка всего производства.

*«Поскольку завод «Белджи» является заводом серийного типа, то полноценное обслуживание оборудования возможно только при условии остановки конвейера. То есть это не вынужденная мера, это, скорее, требование технологического процесса»*, – еще раз подчеркнул Николай Лисовский.

Работники основного производства отправлены в отпуск. Это примерно две трети трудового коллектива. Всего на «Белджи» работает более 1300 человек. Решение об остановке производства принималось на стыке зимы и весны, а коллектив был заранее уведомлен.

*«Принимая во внимание, что люди планируют отпуска именно летом, мы централизованно запланировали этот отпуск. Он был положительно воспринят персоналом. Люди были заранее уведомлены, выразили свое согласие. Все оформлено в соответствии с трудовым законодательством. Естественно, отпуск уже оплачен. Люди заранее взяли путевки и уехали отдыхать»*, – отметил главный инженер завода.



По его словам, производство на «Белджи» останавливают два раза в год – летом и зимой. Технологическую остановку называют шатдауном. Следующий шатдаун на «Белджи» запланирован в начале следующего года. Он будет длиться менее двух недель.

*«Две недели – это половина отпуска людей. Зимой люди не так охотно идут в отпуск, поэтому там мы остановимся чуть покороче. Шатдаун начнется со 2–3 января»*, – сообщил Николай Лисовский.

Остановка конвейера не отразится на планах по выпуску и продаже автомобилей, заверил Лисовский. По его словам, в этом году планируется произвести и продать около 22 тысяч единиц. Основные рынки сбыта – Россия и Беларусь. Кроме того, завод планирует в скором времени выйти на рынки Казахстана, Таджикистана и Армении. Сложнее обстоят дела с Украиной и странами Балтии.

На заводе «БелДжи» возле Жодино выпускают три марки китайского автомобиля Geely – кроссоверы Atlas (от 35.200 рублей) и Emgrand X7 (от 31.000 рублей), а также седан Emgrand 7 (от 24.900 рублей).

**Александр ЯРОШЕВИЧ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



## Александр ФЕДУТА
# Праздник пожарной команды

25 июля в моем родном Гродно отметили День пожарной службы Республики Беларусь. Это правильно, что есть такой праздник и что его отмечают. Он красивый. Красные пожарные машины, оркестр играет музыку, к лабрадору Альфе подходят дети.

Возможно, сотрудники МЧС – представители той единственной специальной службы, к которой все испытывают только добрые чувства. Ну, разумеется, при условии, что они приезжают по вызову в срок и помогают решить те проблемы, которые возникли у граждан. И напрасно кто-то думает, что люди недостаточно благодарны к ним. Благодарны, всегда и везде.

Есть, например, в России, в Липецкой области, маленький город Елец, родина писателей Ивана Бунина и Михаила Пришвина. Вот там висит мемориальная доска: «Пожарным братьям Сидоровым (точную фамилию не помню, простите), спасшим город Елец от пожара в 1827 году». И это вовсе не преувеличение какое-то. Город был деревянным, и когда бы пожар разросся, Ельца просто не осталось бы на географической карте России. Выгорел бы дотла. Пожарные его спасли.

Сейчас горят российские леса. Сибирь горит. Который месяц читаю я в социальных сетях слезные мольбы жителей Иркутской области и Красноярского края: леса горят, жители задыхаются от гари и дыма. Общая площадь пожаров – около 300 тысяч гектаров тайги.

Я помню лето 1993 года у нас, в Беларуси. Тоже было жарко – не так, как в нынешнем году, но от этого не легче. Пожары прошли по всей стране. Горели и леса, и дачные домики… Кажется, именно тогда начала бросаться в глаза социальная реклама, призывавшая граждан не курить в постели, не оставлять плохо затушенными и не залитыми водой костровища в лесу. Прошло некоторое время – начали запускать по телевидению мультипликационные ролики с призывами соблюдать противопожарную безопасность. Наконец вершиной рекламного мастерства стал сериал с назойливым кудрявым мальчиком, обучавшим всех подряд, кстати и некстати, этой самой противопожарной безопасности, и его родителями, гордящимися тем, что научили.

А ведь правда – молодцы, что научили! У пожарных и так много работы. Только в мае – последняя статистика, размещенная на сайте Министерства по чрезвычайным ситуациям Беларуси, относится к маю – белорусские пожарные команды совершили 2207 вызовов. Из них в лес выездов было всего … 66! Все остальное – населенные пункты. Горит мусор, куда беспечный курильщик бросил незатушенный «бычок». Горит свалка. Горит плита в квартире, хозяева которой увлеклись разговором по телефону. Любой электроприбор может загореться. И раздражающая нас реклама, призванная до автоматизма довести навык борьбы с бытовыми возгораниями, возможно, остается не только средством профилактики, но и своего рода знаком отчаяния: граждане, будьте осторожны с электроприборами, со спичками, наконец, с сигаретами, потому что слов уже никаких не хватает…

Праздник праздником, а 24 июля, накануне, те же гродненские пожарные спасли человека – инвалида 1-й группы с нарушениями опорно-двигательного аппарата. Возгорание произошло в его квартире на втором этаже. Хозяина спасли, пожар потушили. Еще 15 человек пришлось эвакуировать – практически всех, насколько можно понять, кто находился в этот момент в подъезде гродненской пятиэтажки по улице Лиможа. Так что жертв могло быть достаточно много.

Мама, когда я в детстве шалил со спичками (а реакция у любого ребенка достаточно медленная: открыл вентиль на газовой плите, а спичками чиркнуть не успеваю), выговаривала мне:

– Ты что думаешь, я – пожарная команда? Могу ведь и не успеть!

Вся наша жизнь состоит из вызовов спасателей. К сожалению, это так. Службы быстрого реагирования – пожарные, врачи «скорой помощи», милиция – нуждаются в уважении общества. Новости о том, сколько жизней спасено, мы пропускаем мимо ушей, не обращая внимания на эту статистику. Вот гибель, особенно массовая, – это да! Тут и коллеги-журналисты налетят и распишут, и тем более очевидцы распространят через «сарафанное радио» столько информации, что впору задохнуться, как от угарного газа. А у наших спасателей-спасителей не хватает зачастую оборудования, у врачей – медикаментов, у милиции – элементарного бензина, чтобы доехать к месту происшествия. Поэтому иногда и не успевают помочь.

Может быть, лучше, чтобы происшествий было поменьше? Чтобы мы были аккуратней и думали о безопасности сами? Ибо на государство надейся, а сам не плошай.

Представляете: вся жизнь была бы праздником! С оркестром пожарной команды и собакой Альфой! Здорово!

ОФИЦИАЛЬНО

# С добросовестными работниками контракты будут заключать на 5 лет

*В Беларуси внесены изменения в Трудовой кодекс. А.Лукашенко подписал Закон «Об изменении законов», которым и вносятся данные корректировки.*

Что появилось нового в документе:

– установлен месячный срок предупреждения работника об изменении существенных условий труда;

– предоставлена возможность работать по совместительству полный рабочий день или смену в период трудового отпуска;

– предусмотрено регулирование порядка временного перевода с согласия работника на другую работу, в том числе к другому нанимателю;

– размер выходного пособия увеличен до одной среднемесячной заработной платы, если увольнение работника произошло по причине установления неполного рабочего времени (менее половины нормы);

– отцам по их желанию будет предоставляться отпуск (до 14 календарных дней) при рождении в семье ребенка;

– по соглашению сторон 5-летний контракт с работником, не допускающим нарушений дисциплины, будет продлеваться до истечения максимального срока его действия. А новый контракт с таким работником будет заключаться на срок не менее трех лет. На меньшие сроки новые контракты будут продлеваться и заключаться только с письменного согласия работника;

– материальная ответственность будет наступать одинаково и для тех, кто работает по контракту, и для тех, кто по трудовому договору, только за умышленное причинение имущественного вреда.

Кроме того, в Трудовой кодекс включена совершенно новая глава, которая регулирует отношения работника и нанимателя при выполнении дистанционной работы.

Закон вступит в силу через шесть месяцев после его официального опубликования.

АФЁРА

# Падман скончыўся крымінальнай справай

*Смаргонскі прадпрымальнік, які на законных падставах гадаваў пародзістых сабак і прадаваў іх, абвінавачаны ў махлярстве.*

Прадаючы шчанюкоў, прадпрымальнік, як і належыць, заключаў дамовы куплі-продажу, у якіх афіцыйна запісваў, што прадае пародзістага шчанюка нямецкай аўчаркі. Адпаведна і цана за такога пітомца была немалая.

Аднак з часам высветлілася, што сабакі зусім не адносяцца да пароды нямецкіх аўчарак. Пакупнікі зразумелі, што іх ашукалі і пачалі пісаць скаргі ў міліцыю. Паводле паведамлення прэс-службы УУС, былі праведзены адмысловыя даследаванні, і праваахоўнікі высветлілі, што мужчына наўмысна падманваў пакупнікоў. Падобнай дзейнасцю ён займаўся на працягу 2014–2018 гадоў. Супраць прадпрымальніка ўзбуджана крымінальная справа за махлярства.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Уладзімір Някляеў плануе дапісаць сваю новую кнігу да Новага года

*Паэт распавёў «Народнай Волі» пра тое, як ідзе праца над раманам пра Янку Купалу.*



Як раней паведамлялася, Уладзімір Някляеў атрымаў двухгадовую шведскую стыпендыю і каля двух месяцаў правёў у горадзе Лунд, дзе дапісвае раман.

*«Прапанова паўдзельнічаць у праграме паступіла ўжо даўно, але ж ніяк не мог выбрацца*, – кажа паэт і палітык. – *То садзіўся на «суткі», то з'яўляліся нейкія іншыя справы. Але ў рэшце рэшт вырашыў скарыстацца магчымасцю ўзяць палітычны тайм-аўт».*

– Зараз прыехаў у Мінск таму, што тут у мяне таксама ёсць справы, – кажа **Уладзімір Пракопавіч**. – Як мінімум да жніўня буду дома, хаця ў Швецыю вяртацца абавязкова трэба. Неабходна заканчваць раман. І калі будзе пісацца так, як пісалася апошнім часам, то да Новага года планую закончыць працу. А вось прыехаў дадому, і ў Мінску наогул не напісаў ніводнай старонкі. Тут я б ніколі не закончыў раман.

**– Але ж вас на два гады запрасілі ў Швецыю…**

– Калі дапішу раман, то мне там рабіць асабліва няма чаго. Я скарыстаўся запрашэннем толькі дзеля таго, каб можна было пісаць у спакойнай абстаноўцы. Як з чалавекам трэба своечасова развітацца, так і гэтую працу неабходна закончыць, бо незавершанасць цісне псіхалагічна.

**– А навошта ўвогуле вырашылі перарабляць раман пра Янку Купалу?**

– Тут даволі складаная гісторыя. Я напісаў і аддаў у часопіс «Дзеяслоў» першы варыянт твора, і яго ў мінулым годзе ўжо павінны былі надрукаваць. Але затым прапанаваў іншы варыянт, і я сам адчуў, што так будзе лепш. Рэдакцыя мяне падтрымала. Мне здавалася, што перарабіць твор будзе даволі проста, але ўсё аказалася куды складаней.

Калі ў першым варыянце рамана ўсе падзеі адбываліся ў адным часе, то ў другім ужо два часы, якія паміж сабой пераплятаюцца. Таму давялося змяняць і сюжэтныя лініі, і нейкіх новых героеў уводзіць…

Адным словам, склалася сітуацыя, калі лягчэй пабудаваць новы дом, чым адрамантаваць стары.

**Алесь СІВЫ.**

ТЕНДЕНЦИИ

# Из Беларуси стали реже уезжать на ПМЖ в Россию

*Поток уезжающих из Беларуси в Россию на постоянное место жительства пошел на убыль. Однако временная миграция белорусов в РФ продолжает расти.*

Об этом свидетельствует июльский мониторинг экономической ситуации, составленный Институтом экономической политики имени Е.Т.Гайдара.

В нем, в частности, отмечается, что в январе–апреле 2019 года миграционный прирост населения России увеличился, в том числе за счет прибывающих из стран СНГ – на 57,4% (по сравнению с соответствующим периодом 2018 года), из других стран – в 5,2 раза. При этом сократился показатель миграционного прироста с Беларусью и Молдовой. Основными миграционными донорами России становятся Казахстан, Украина, Таджикистан и Армения.

Как свидетельствуют данные Института Гайдара, за период январь–апрель 2018 года в Россию из Беларуси мигрировало 3,5 тысячи белорусских граждан. За аналогичный период текущего года данный показатель сократился до 2,8 тысячи мигрантов. Однако количество уезжающих в соседнюю страну белорусов все равно высоко. Во всяком случае по сравнению с ситуацией 3–4-летней давности. Например, за январь–апрель 2015 года в Россию уехало 1,7 тысячи белорусов, а за такой же период 2016 года – всего 500 человек.

Вместе с тем в текущем году выросло число временных трудовых мигрантов, отправившихся на заработки из Беларуси в РФ. Если в прошлом году их насчитывалось 617 тысяч 633 человека, то в текущем – 655 тысяч 846 человек.

ЗВАНЫЙ ГОСТЬ



# ДИРИЖЕР

## Белорусский маэстро стал у руля одного из старейших театров Европы

Известный белорусский дирижер Большого театра Вячеслав Чернухо-Волич, обладатель медали Франциска Скорины, а также специальной премии президента за большой личный вклад в возрождение старинной белорусской музыки, стал главным дирижером Одесского театра оперы и балета. Это очень достойная позиция для талантливого музыканта. Хотя и жаль, что это случилось не на родине, что Вячеслав Иванович теперь реже будет появляться в Минске. Впрочем, жизнь сейчас мобильна, а возраст маэстро довольно далек от почтенного, и мы, в конце концов, можем надеяться на будущее. А пока что – Одесса, старинный театр с уникальной акустикой, которая позволяет доносить даже шепот со сцены в любой уголок зала.

Но главное – его музыкальная история. В Одесском театре дирижировал сам Чайковский, а также Римский-Корсаков, Рахманинов, пели Федор Шаляпин, Саломея Крушельницкая, Леонид Собинов, танцевали Анна Павлова и даже Айседора Дункан. Великая Елена Образцова после своего первого выступления в одесском оперном сказала: «Я пела практически на всех сценах мира, и я отдаю предпочтение вашему театру даже перед венской оперой, сооруженной по проекту тех же архитекторов». Что ж, а теперь в его историю навсегда будет вписана и фамилия нашего соотечественника Вячеслава Чернухо-Волича.

**– Вячеслав Иванович, надо отдать вам должное, вы в профессии никогда не были лежачим камнем, который у моря ждет шампанского и хорошей погоды. Вы дирижер востребованный: уже несколько лет параллельно с белорусским Большим работаете в Московском музыкальном театре имени Станиславского и Немировича-Данченко. А это, скажем без ложной скромности, – элитный эшелон.**

– Карьеру в Минске дирижеру сделать непросто. Можно, конечно, но сложно – театров и симфонических оркестров у нас мало. А самое главное, если замыкаешься в одних стенах и не общаешься с масштабными музыкантами, художниками, режиссерами, ты сам себе становишься не очень интересен. Твой внутренний мир не развивается, остается таким… ммм…

**– Не будем бояться этого слова – провинциальным.**

– Да, обособленным. И те, с кем ты работаешь, это тоже начинают остро чувствовать. У них тоже – у солистов, оркестрантов – пропадает интерес к тебе, как к творческой персоне. Поэтому надо идти за горизонт.

**– Выходить из домашней зоны комфорта. Итак, вы стали главным дирижером, но для этого участвовали в конкурсе. И победили! А вы знаете, кто был вашим конкурентом?**

– Из известных нам персон в этом конкурсе участвовал бывший главный дирижер нашего Большого театра оперы и балета Виктор Плоскина.

**– О, какой интересный узел! Он сейчас ищет работу…**

– Но в очном поединке с абсолютно непредвзятым и не ангажированным жюри победил ваш покорный слуга. Конкурсную комиссию, как правильно называлось жюри, возглавлял очень уважаемый маэстро, главный дирижер Кишиневского театра оперы и балета Андрей Юркевич. Он выпускник Львовской консерватории, теперь много работает в Италии, поэтому на постсоветском пространстве не частый гость.

**– Вы, наверное, думали, что место отдадут обязательно украинцу, своему соотечественнику?**

– Нет, так я не думал. Просто конкурс, как вы понимаете, – дело непредсказуемое. Я, признаться, даже раздумывал, участвовать ли в нем. Но меня убедили коллеги из Одессы, которые прямо-таки настояли на этом шаге. Они сказали: «Вячеслав Иванович, нам нужен такой музыкант, как вы». Я благодарен им за поддержку.

**– Это важно. Вы давно заслужили пост главного. А работать еще и в таком городе, как Одесса…**

– Я очень люблю этот город. Если удастся до начала сезона, который стартует в театре очень рано – 1 августа, я обязательно искупаюсь в Черном море. И поем черешни, если она еще не исчезла с рынков. Когда-то с супругой свое первое путешествие, как только у нас появилась машина, мы совершили именно в Одессу. Это было начало девяностых. Могу сказать, что по сравнению с теми годами город изменился в лучшую сторону, исторический центр привели в порядок. Правда, дорог это касается в меньшей степени, они как были, так и остались южными, немножко советскими. А во всем остальном – это уютный европейский город с архитектурой середины XIX века.

**– Я прочитала, что Одесский оперный театр в нынешнем виде построен в 1887 году, а работает он вообще с 1810 года, то есть даже раньше, чем французский оперный театр, который известен теперь как «Опера Гарнье».**

– Сейчас мы открываем 210-й сезон – представляете? Это вызывает определенные эмоции, правда?

**– С удивлением узнала, что в Одесском театре оперы и балета генеральный директор женщина – Надежда Бабич. Не часто встретишь женщину на такой работе, я лично и не припомню подобных примеров.**

– Почему? А Галина Генриховна Вагнер у нас в середине двухтысячных? Потрясающий директор театра оперы, когда он существовал отдельно от балета. Мы с ней ездили даже на гастроли в Таиланд. Она мудростью и женской теплотой сберегла наш коллектив в тяжелейший период реконструкции, когда мы были бродячей труппой без сцены. Это было самое тяжелое время для Большого. Ведущие мастера в такие периоды сразу стараются найти новую работу, новую сцену, и их за это нельзя упрекать, потому что творческий век солиста на самом деле не так уж и долог. И каждый хочет использовать свои творческие годы с максимальной отдачей.

**– Но вернемся в сегодняшний день. Каковы ваши творческие планы в Одессе?**

– После объявления результатов мы тут же сели с директором театра и в течение трех часов обсуждали мою творческую судьбу. Меня надо срочно вводить в репертуар, но афиша Одесского оперного уже сверстана до октября. Туда нужно войти, ничего не сломав. И в то же время заявить о себе. Конечно, я хотел открыть новый сезон сам. Но на эту дату уже был приглашен дирижер из другого театра. Поэтому я стану за пульт 3 августа и буду дирижировать спектаклем «Кармен» в новой должности в новом театре. И свои планы буду формировать уже на вторую половину сезона.

**– А вы будете появляться в белорусском Большом?**

– С генеральным директором Владимиром Павловичем Гридюшко мы договорились, что это будет периодически происходить.

**– Как вы считаете, что для Одессы в вашей творческой биографии было особенно привлекательным: работа в белорусском Большом театре или работа в Москве в Музыкальном театре Станиславского и Немировича-Данченко?**

– Думаю, ни то, ни другое. Москва сегодня вызывает у них понятное настороженное отношение, которое распространяется и на эмоциональный уровень. Но руководство прекрасно понимает, что творческий уровень московского театра, безусловно, высок.

**– А вы хотите и в Москве в дальнейшем оставить за собой творческую площадку?**

– Я хочу не только оставить, но и расширить ее! Мы договорились продолжать там творческие отношения. Но, конечно, это вопрос сложный, я должен соотносить свои желания с реалиями. В первую очередь надо полностью отдаться Одесскому театру, тем более у меня много идей. Так что решение совмещать несколько сценических площадок будет даваться непросто. Но современный дирижер должен быть в обойме.

**Елена МОЛОЧКО.**

РЭГІЁН

# Замест крамы – парк

*Жыхары мікрараёна «Дзевятоўка» ў Гродне выступаюць супраць будаўніцтва новага гандлёвага цэнтра і патрабуюць, каб на гэтым месцы ўлады разбілі парк.*

На чарговым аўкцыёне ў Гродне быў прададзены надзел зямлі плошчай 148 сотак на перасячэнні вуліц Курчатава і Ліможа. Для мінскага прадпрымальніка, які яго набыў, надзел абышоўся ў 1,3 мільёна рублёў. Па ўмовах аўкцыёна ён павінен збудаваць на ім будынак грамадскага прызначэння. Прадпрымальнік ужо заявіў, што збіраецца будаваць новы гандлёвы цэнтр.

Даведаўшыся аб гэтым, многія жыхары мікрараёна такую навіну прынялі ў штыкі. Аргументы людзей зводзяцца да таго, што побач працуюць два вялікія гандлёвыя цэнтры «Еўраопт» і «Алмі» і гэтага, маўляў, хапае для цэлага мікраараёна аж з лішкам. А вось ціхага зялёнага месца для адпачынку ў мікраараёне, паводле меркавання жыхароў, не стае і таму яны патрабуюць, каб на гэтым месцы быў разбіты парк. «Нам не стае парка з дрэвамі, дзе можна было б пагуляць, адпачыць і падыхаць свежым паветрам», – кажуць людзі.

Старэйшыя жыхары Дзевятоўкі прапаноўваюць назваць парк «Белыя росы» ў гонар савецкага кінафільма, які якраз здымаўся ў гэтых мясцінах. А ў парку зрабіць алею з помнікамі героям фільма.

Улады адказваюць, што будаўніцтва будынка грамадскага прызначэння на гэтым месцы запланавана генпланам. Да ўсяго, маўляў, створацца новыя працоўныя месцы, а гандлёвы цэнтр не зойме ўсёй свабоднай тэрыторыі і дадаткова побач плануецца разбіць сквер.

Жыхары Дзевятоўкі, аднак, працягваюць настойваць на сваім.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ПАРАЎНАЕМ

# 142 рублі на аздараўленне…

Як паведамлялася, на асенняй сесіі Палата прадстаўнікоў мае намер разглядзець законапраект «Аб змяненні законаў па пытаннях аплаты працы работнікаў бюджэтных арганізацый»,

«*У ліку новаўвядзенняў – аднаразовая выплата на аздараўленне ў памеры палавіны акладу*», – расказаў карэспандэнту БЕЛТА член Пастаяннай камісіі па працы і сацыяльных пытаннях парламента **Анатоль Дашко**. Дапамогу можна будзе атрымліваць раз у год да водпуску. Плануецца таксама ўрэгуляваць пытанні назначэння матэрыяльнай дапамогі.

Што значыць палова акладу?

Разгледзім на прыкладзе заробкаў школьных настаўнікаў.

Сёння пры налічэнні зарплаты бюджэтнікам прымяняецца 27-разрадная тарыфная сетка (з наступнага года будзе 18-разрадная). Самы вялікі аклад вызначаны для працаўнікоў з тарыфнай стаўкай 27 і ў школьных настаўнікаў на дадзены момант самы высокі тарыфны аклад складае 285,38 рубля. То бок калі б зараз праводзіліся аднаразовыя выплаты на аздараўленне, настаўнікі, у якіх найвялікшы аклад, маглі б разлічваць на дадатковыя да адпачынку 142 рублі 69 капеек. А маладыя педагогі, якія толькі прыйшлі ў школу, не напрацавалі стаж і маюць мінімальны аклад 152,15 рубля, атрымалі б усяго 76 рублёў. І смех і грэх. Ну хіба што свежай садавіны і гародніны купіш на гэтыя грошы.

У гэтай сувязі ўзгадалася нядаўняя публікацыя ў нямецкіх СМІ, у якой расказвалася, як адпачываюць немцы. Сярод іншых фактаў там быў і такі: аказваецца, у Нямеччыне даўно існуе правіла выплачваць работнікам даплаты да адпускных. Па дадзеных Федэральнага статыстычнага ведамства Германіі, памер такіх даплат складае ў сярэднім 1280 еўра да выліку падаткаў. Як кажуць, з нашымі капейкамі і параўноўваць не трэба...

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**



УВАГА!

# Не наездзіце штрафаў…

*Да 28 ліпеня ДАІ Мінскай вобласці праводзіць прафілактычную акцыю «Хуткасць».*

Інспектары папярэджваюць: «*У гэты перыяд да парушальнікаў-ліхачоў будуць прымяняцца максімальна строгія меры адміністрацыйнага спагнання ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам*».

Калі хто не ведае, нагадаем, што штрафы за перавышэнне хуткасці немалыя. За перавышэнне ад 10 да 20 км/г – 1 базавая велічыня, альбо 25,5 рубля.

ад 20 да 30 км/г – 1–3 б.в., альбо ад 25,5 – 76,5 рубля.

30 і больш км/г – 3–10 б.в., можна трапіць на штраф у 255 рублёў.

За паўторнае на працягу года парушэнне дадзенага характару ў адносінах да вадзіцеляў ужываецца максімальнае адміністрацыйнае пакаранне – штраф ад 5 да 10 базавых велічынь або пазбаўленне правоў да 1 года.

У ДАІ вобласці тлумачаць, чаму неабходны такія меры. Па статыстыцы, за 6 месяцаў гэтага года на тэрыторыі Мінскай вобласці адбылося 282 ДТЗ, у якіх 44 чалавекі загінулі. У 57 выпадках з іх прычынай аварыі стала перавышэнне хуткасці. У іх загінулі 7 чалавек і 67 былі траўміраваны.

**Іван ШЫРОКІ.**

КРИМИНАЛ

# Открыли интернет-магазин, чтобы… продавать наркотики

*Закладки психотропа обнаружили даже на территории одного из учебных заведений.*

Но музыка для наркоторговцев играла совсем недолго. По предварительной информации, реализовывали они свой дьявольский товар не более 10 дней.

Двое совсем еще молодых жителей Борисова – один 1999-го года рождения, а другой 2000-го создали интернет-магазин в Телеграм, чтобы продавать через него особо опасный психотроп под названием альфа-PVP. Сбывали его покупателям как путем закладок в тайники, так и из рук в руки. Последний способ наркоторговцы применяли среди своих друзей и знакомых.

Об этом сообщает сайт УВД Минского облисполкома. Также по информации из УВД, в Борисове было обнаружено 9 тайников, куда упомянутые продавцы наркотиков помещали расфасованные дозы психотропа. Закладки этого опасного для здоровья и жизни вещества нашли даже на территории одного из учебных заведений города.

Деньги за товар клиенты перечисляли через электронные кошельки платежных систем.

Подозреваемые задержаны. Возбуждено уголовное дело по ч.3 ст.328 УК Республики Беларусь.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

